# Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №5(89), красавік, 2017г.

# ЯК ГЭТА БЫЛО. УСПОМНІМ ЧАРНОБЫЛЬ

**26 красавіка 1986 года на Чарнобыльскай АЭС з-за грубых парушэнняў правіл ядзернай бяспекі адбылася буйнейшая ў гісторыі чалавецтва тэхнагенная аварыя.**

26 красавіка 1986 года ў 1 гадзіну 23 хвіліны 58 секунд рэактар і будынак 4-га энергаблока былі разбураны серыяй магутных выбухаў. З разбуранага энергаблока на вялікую вышыню вылецелі палаючыя кавалкі, іскры і полымя. Вецер панёс іх у бок Беларусі.

Каля 50 тон радыёактыўнага паліва выпарылася і было выкінута ў атмасферу ў выглядзе часцінак двухвокісі урана, радыёнуклідаў ёда-131, плутонія-239, нептунія-139, цезія-137, стронцыя-90 і іншых радыёактыўных ізатопаў. Яшчэ каля 70 тон было выкінута на разваленыя будынкі і калястанцыйную тэрыторыю. Актыўнасць радыёактыўнага паліва дасягала 15-20 тысяч рэнтген у гадзіну.

Работнікі станцыі з прыбыўшымі пажарнымі (69 чалавек і 14 адзінак тэхнікі) самааддана змагаліся з агнём. Да 6 гадзін раніцы удалося патушыць падпалены бітум на даху машыннай залы (па правілах тут павінен быў знаходзіцца негаручы матэрыял).

Тушэнне пажару на даху машыннай залы ўзначаліў наш зямляк, брагінец **Васіль Ігнаценка**. Ён з яшчэ некалькімі саслужыўцамі-пажарнымі неверагоднымі высілкамі здолеў патушыць пажар і апошнім сышоў з даху. Усе гэтыя маладыя хлопцы ляжаць на Міцінскіх могілках у Маскве.

На самой станцыі ўжо 27 красавіка пачаліся мерапрыемствы па ўтаймаванню аварыйнага рэактара, які па-ранейшаму выкідваў у атмасферу тоны радыёактыўнага пылу і сажы.

4 мая, пасля аналізу сітуацыі, савецкі ўрад прыняў рашэнне працягнуць адсяленне людзей ад АЭС, пашырыўшы зону адчужэння да 30 кіламетраў. Такім чынам, у ёй апынуўся цэлы шэраг населеных пунктаў на тэрыторыі Беларусі.

У зону адчужэння працягвалі сцягвацца воінскія падраздзяленні, у тым ліку часткі рэзерву, планавалася разгортванне брыгады хімічны войскаў. Сюды масава прыбывалі шматлікія спецыялісты, перакідвалася ваенная і грамадзянская тэхніка.

Высокія ўзроўні радыяцыі назіраліся на ўсёй тэрыторыі нашай краіны. У некаторых населеных пунктах магутнасць дозы выпраменьвання дасягала 0,5 мЗв/гадзіну, што ў некалькі тысяч разоў вышэй натуральнага радыяцыйнага фону.

У наступны перыяд радыеэкалагічная абстаноўка ў рэспубліцы вызначалася дзеяннем доўгажывучых ізатопаў. У іх ліку цэзія-137, стронцыя-90 і трансуранавых элементаў: плутонія і амерыцыя-241.

Непасрэдна ў выніку аварыі цэзіем-137 з узроўнем, які перавышае 37 кБк/кв. метр, было забруджана каля 23-х адсоткаў тэрыторыі рэспублікі, на якой пражывала амаль 2 млн чалавек.

Па дадзеных міжнароднай экспертызы каля 35 адсоткаў усіх выпадзенняў гэтага радыёнукліду на еўрапейскім кантыненце прыйшлося на Беларусь.

Забруджванне радыёцэзіем адзначана на 20 адсотках ўсёй тэрыторыі краіны (пераважна ў Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцях).



Забруджванне радыёстронцыям зафіксавана ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях на плошчы каля 20 тыс. кв. км, што складае прыкладна 10 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі.

Забруджванне глебы ізатопамі трансуранавых элементаў ахоплівае каля 4 тыс. кв. км на тэрыторыі шасці раёнаў паўднёвай часткі Гомельскай вобласці і аднаго раёна Магілёўскай (2% плошчы рэспублікі).

Такім чынам, радыяцыйна-экалагічная абстаноўка ў Беларусі застаецца складанай. Альфа-, бэта- і гама-выпраменьваючыя радыёнукліды прысутнічаюць практычна ва ўсіх кампанентах экасістэм.

Трэба мець на ўвазе, што каля 70 адсоткаў калектыўнай дозы апрамянення насельніцтва фарміруецца за кошт спажывання «брудных» прадуктаў харчавання.

Сумарны ўрон, нанесены Беларусі чарнобыльскай катастрофай у разліку на 30-гадовы перыяд пераадолення яе наступстваў, ацэньваецца ў 235 млрд даляраў ЗША, што адпавядае 32-м бюджэтам рэспублікі 1985 года.

У той жа час варта зазначыць, што спыненне сельскагаспадарчых работ у зоне эвакуацыі (30-кіламетровая зона), а таксама на найбольш забруджаных (больш за 1480 Бк/кв. км) землях тэрыторыі адсялення прывяло да паўсюднага ўтварэнне шчыльнага травянога покрыва і значнага падаўлення пылаўтварэння.

**Зараз з дапамогай Расіі будуецца Астравецкая АЭС і ў нашай краіне. Досыць вялікая колькасць грамадзян Беларусі катэгарычна выступае супраць гэтага.**

Вельмі актуальным з'яўляецца пытанне выключна якаснай падрыхтоўкі кваліфікаваных спецыялістаў, ад дасведчанасці і глыбокіх ведаў каторых найперш залежыць бяспека эксплуатацыі ядзернага аб'екта.

Наступствы Чарнобыля павінны стаць штодзённым напамінам усім аб вялікай адказнасці за іх працу, аб тым, што законы подласці спрацоўваюць заўсёды там, дзе людзі не маюць глыбокіх ведаў, губляюць пільнасць і спадзяюцца на «авось».

**Магістрат**

**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
**8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.**
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**
**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**WWW.MOLADZ.INFO**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

**ДАСЫЛАЙЦЕ АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ГА БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**

**Рэквізыты: р/р 3015100147004 ААТ "Белзнешэканомбанк" філіял Мінскае аддзяленьне № 1 код 226, УНП: 100052236**

**"прызначэньне плацяжу" — "бязвыплатны ўзнос"**

**— для ахвяраванняў на аплату сядзібы — "бязвыплатны ўзнос на аплату арэнды памяшкання".**

**Шчыры дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# «ГРАМАДЗЯНІН, ПРАЙДЗЁМЦЕ!»

**Што рабіць, калі вас цягнуць за рукаў у аўтазак? Belsat.eu распытаў пра гэта ў праваабаронцаў, якія жадаюць спыніць практыку адвольных затрыманняў.**

Першае і самае галоўнае – не чыніць фізічнага супраціву міліцыянтам. Гэта можа скончыцца крымінальным пераследам за гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі пры выкананні службовых абавязкаў.

«Замест адміністратыўнай вы панясеце крымінальную адказнасць і можаце нават быць пазбаўлены свабоды на некалькі гадоў», – тлумачыць **Валянцін Стэфановіч**, намеснік старшыні праваабарончага цэнтру «Вясна».

Больш за тое, пры ўжыванні фізічнай сілы з вашага боку, супрацоўнікі міліцыі будуць мець права таксама выкарыстаць гвалт.

**У пастарунку**

Кожны затрыманы мае права ведаць, за што яго затрымалі. Павінны быць складзены пратакол, затрыманы мае права з гэтым пратаколам азнаёміцца, напісаць да яго свае тлумачэнні і як ён сам бачыць гэтую сітуацыю. Можна таксама пазначыць асобы і кантакты сведкаў, якія прысутнічалі ў момант затрымання і могуць расказаць, як было насапраўды.

«Часта ў такіх выпадках пратакол складаюць за лаянку матам, дробнае хуліганства або парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў. І тут можа быць дзве пазіцыі. Адна з іх, калі чалавек увогуле гаворыць, што я не я і хата не мая, я міма ішоў і нідзе не ўдзельнічаў. Іншая пазіцыя, калі вы кажаце, што ўдзельнічалі, але выказвалі свае меркаванне мірным чынам, грамадскага парадку не парушалі, рэалізоўвалі сваё канстытуцыйнае права», – распавядае Валянцін.

Бывае, затрыманыя прызнаюць віну ў спадзяванні на тое, што ім выпішуць штраф і адпусцяць без арышту. На думку праваабаронцы, гэта – не самая лепшая стратэгія, калі вы сапраўды сваёй віны не бачыце.

«Калі вы насамрэч нічога не рабілі, то мае сэнс аспрэчваць абвінавачванне і спрабаваць даказаць, як было па вашай версіі, што вы не лаяліся матам, да грамадзянаў не чапляліся, нікому перашкодаў не чынілі. У гэтым выпадку рашэнне суда можна будзе абскардзіць на працягу 10 дзён ці 5 дзён, калі чалавек арыштаваны. Калі ж затрыманы прызнаў сваю віну, то абскарджваць ужо няма сэнсу. Гэтым могуць скарыстацца ўлады, калі чалавек, напрыклад, пачне казаць, што ён палітычны зняволены».

Пасля складання пратаколу чалавека могуць трымаць пад адміністрацыйным арыштам да 72 гадзін да суда, або адпусціць і выклікаць на судовае паседжанне позвай.

**Падчас арышту**

На час арышту ў затрыманага маюць права забраць усе асабістыя рэчы, а таксама рэмень і шнуркі, каб не ўчыніў шкоды сабе або іншым. На ўсё адабранае павінен быць складзены спіс, згодна якому рэчы будуць потым вяртаць. Асобу могуць падвергнуць дактыласкапіі або відэа-фіксацыі, усё гэта прадугледжана заканадаўствам. Перадачы таксама можа дазволіць толькі канвой.

Супрацоўнікі міліцыі павінны патэлефанаваць сваякам і паведаміць пра тое, што яго затрымалі ды дзе ён знаходзіцца, але толькі калі затрыманы сам пра гэта папросіць. Без патрабавання яны гэта робяць толькі ў дачыненні да непаўналетніх асобаў.

**У судзе**

У судзе можна заявіць хадайніцтва, каб паўдзельнічаў адвакат, які будзе абараняць правы затрыманага. Таксама можна хадайнічаць аб допыце сведкаў, праглядаў відэаматэрыялаў, якія пацвярджаюць адсутнасць віны.

На пачатку паседжання суддзя павінен паведаміць склад суда, а таксама запытацца, ці прызнае падсудны сваю віну.

**Калі правы былі парушаныя**

Калі затрыманы лічыць, што супрацоўнікі міліцыі перавысілі свае паўнамоцтвы, абыходзіліся з ім жорстка, таксама можна абскардзіць дзеянні міліцыі.

«Калі чалавека не кормяць, не пояць, не даюць хадзіць у прыбіральню ці дазваляюць сабе фізічнае ўздзеянне, абражаюць – гэта ўсё недапушчальна. Хапаць чалавека пры затрыманні і біць яго, калі ён яшчэ нават нічога не паспеў зрабіць або перавозіць на падлозе – зразумела, што такія дзеянні мы лічым незаконнымі і бесчалавечнымі», – кажа праваабаронца.

**Калі затрымліваюць іншых**

Праваабаронцы раяць не адбіваць сілай сяброў у міліцыі, бо наўрад ці такім чынам можна дапамагчы, але верагодней нарабіць шкоды сабе. Лепей паспрабаваць прыцягнуць увагу назіральнікаў і дазнацца, у які РУУС вязуць затрыманых. Потым паведаміць вядомыя імёны і прозвішчы праваабаронцам. Так ім будзе прасцей складаць спісы затрыманых і весці абарону іх правоў.

# МОЛАДЗЬ БНФ: ВЯРНУЦЬ ІЛЬГОТЫ ЧАРНОБЫЛЬЦАМ!

**Моладзь БНФ патрабуе вярнуць ільготы ліквідатарам аварыі на ЧАЭС, а таксама прыняць усе неабходныя меры па ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.**

Моладзь БНФ збірае подпісы пад петыцыяй, каб вярнуць ільготы ліквідатарам-чарнобыльцам і тым, хто застаўся жыць на забруджаных тэрыторыях, а таксама прыняць меры па ліквідацыі наступстваў ад аварыі на ЧАЭС. Зварот плануецца накіраваць ў Савет міністраў і Нацыянальны сход.

"Ужо больш за 30 гадоў прайшло з моманту аварыі на ЧАЭС, а наша краіна дагэтуль пакутуе ад наступстваў той трагедыі. Забруджаныя тэрыторыі, рост анкалагічных захворванняў, парушэнні экалагічнай абстаноўкі і шмат чаго іншага. Але ж, замест таго, каб прыкласці высілкі для ліквідацыі гэтых наступстваў, мы вымушаны канстатаваць, што ўлада не выконвае сваіх абавязкаў па выпраўленні дадзенай сітуацыі.

Скасаваныя ільготы ліквідатарам, вырошчванне сельгаспрадукцыі і размеркаванні маладых спецыялістаў у забруджаныя зоны, недастатковы ўзровень медыцыны у анкалагічнай сферы — вось чаго дасягнула дзеючая ўлада ў сферы ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС", — адзначаецца ў петыцыі Моладзі БНФ petitions.by.

Таму Моладзь БНФ патрабуе ад уладаў і парламентарыяў на заканадаўчым узроўні прыняць неабходныя меры па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС:

**1) Вярнуць ільготы ліквідатарам на ЧАЭС і жыхарам забруджаных ад ЧАЭС тэрыторый.**

**2) Забараніць вырошваць с/г прадукцыю на забруджаных тэрыторыях.**

**3) Забараніць размяркоўваць маладых спецыялістаў на забруджаныя тэрыторыі.**

**4) Павялічыць выдаткі на медыцыну ў анкалагічнай сферы.**

**5) Выпрацаваць працэдуру абавязковай праверкі насельніцтва на анкалагічныя захворванні.**

Паводле прэс-службы Моладзі БНФ

# РАДАЎНІЦА — НАВЕДВАЮЦЬ МАГІЛЫ ПРОДКАЎ

**Пасля Вялікадня беларусы ўшаноўваюць продкаў. Сёлета выхадны дзень Радаўніцы прыпаў на 25 красавіка.**

У адных мясцінах Беларусі на могілках збіраюцца ў Наўскі Вялікдзень (першы чацвер пасля Вялікадня; «наўскі» гэта значыць, «чацвер памерлых», ад старога слова «навец», г.зн. «нябожчык»), у другіх — на Правадную Нядзелю (або «Наўскі Вялікдзень», першая нядзеля пасля Вялікадня, якая «праваджае» святочны тыдзень). Але ў большасці наведванне могілак адбываецца на 9-ты дзень пасля Вялікадня.

Сам назоў Радаўніца (Радуніца, Раданіца) вельмі архаічны. Няма адзінага меркавання пра яго паходжанне. Здавалася б, значэнне слова ляжыць на паверхні.

Так, доўгі час яго этымалогію выводзілі ад «радавацца» або «род». «Род» — ясна, чаму. На карысць «радаснай» тэорыі сведчыла тое, што ў хрысціянскі час Радаўніца стала «Вялікаднем памерлых»: святам, прасякнутым надзеяй на ўваскрашэнне і вечнае жыццё. Аднак многія навукоўцы лічаць такое тлумачэнне павярхоўным.

Больш навуковым ключом да тлумачэння слова можа быць летувіскае raudá «плач з галашэньнем» і raudìnė «малітва з плачам і галашэннем». Параўнайце, як гэта падобна да славянскага «рыдання».

Сам абрад памінання дзядоў па Вялікадні ў нас з летувісамі ідэнтычны. Назоў «Радаўніца» менш пашыраны на поўдзень ад Беларусі. Прыкладам, ва Украіне.

Дзяржаўным выхадным днём Радаўніца стала пасля звяржэння савецкай улады, у 1991-м. У Расіі, Польшчы і Украіне гэты дзень працоўны.

На могілках прыбіраюцца загадзя, перад днём памінання, калі павінна быць ужо чыста.

На Радаўніцу многія беларусы любяць прынесці на могілкі пачастунак, у тым ліку спіртное. Царква не ўхваляе гэтага, як і пакідання на могілках велікодных яек, кажучы, што галоўнае для нябожчыка — малітва.

Гэты абрад памінання памерлых бярэ свой пачатак яшчэ з дахрысціянскай пары, ён дасёння — адзін з найжывейшых.

Штогод могілкі перад Радаўніцай і на яе наведваюць мільёны людзей.

http://nn.by

# НЕЛЬГА БУДАВАЦЬ НА ТЭРЫТОРЫІ ВІЦЕБСКІХ ЗАМКАЎ

**Савет Міністраў сваёй пастановай ад 20 сакавіка зацвердзіў праект зон аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці — гістарычнага цэнтра Віцебска.**

Праект зон аховы гістарычнага цэнтра распрацаваны ўнітарным прадпрыемствам «БелНІІПгорадабудаўніцтва» у складзе праекта «Дэталёвы план цэнтральнай часткі Віцебска» па замове Віцебскага гарвыканкама. Дакумент павінны забяспечыць ахову гісторыка-культурнай каштоўнасці і яе навакольнага асяроддзя, ён вызначае межы зон аховы і ўсталёўвае рэжым іх утрымання і выкарыстання.

На тэрыторыю гісторыка-культурнай каштоўнасці распаўсюджваюцца рэжымы ахоўнай зоны, плошча якой складае 321 гектар.

Работы на будынках і збудаваннях, размешчаных у яе межах, а таксама на яе тэрыторыі можна выконваць у адпаведнасці з заканадаўствам аб культуры на падставе навукова-праектнай дакументацыі, якую трэба узгадняць з Міністэрствам культуры.

Асобна вылучаная тэрыторыя былога Верхняга, Ніжняга і Узгорскага замкаў, дзе ўвогуле забараняецца ўзвядзенне будынкаў і збудаванняў, акрамя рэканструкцыі па гісторыка-бібліяграфічных матэрыялах у аб'ёмах страчаных гістарычных будынкаў.

Такім чынам, цікавы момант узнікае з будаўніцтвам Палаца шлюбаў, якое гарадскія ўлады мяркуюць распачаць у гэтым годзе. Пры накладанні на схему ахоўнай зоны гэты аб'ект радыяльна перасякаецца паўднёвай сцяной Ніжняга замка ў месцы яе прымыкання да заходняй сцяны.

Поўнасцю з праектам зон аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці — гістарычнага цэнтра Віцебска можна азнаёміцца на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. «ННВ»

# У ЛЕСЕ ПАД ХАЙСАМІ ВАНДАЛЫ ЗНОЎ РАСКАПАЛІ ПАХАВАНЬНІ РЭПРЭСАВАНЫХ ЗА ЧАСАМІ СТАЛІНІЗМУ

У сёньняшнім стане лес, зьнявечаны сьвежымі раскопамі на вялікай плошчы, нагадвае месца жахлівага, наўмыснага зьдзеку з памяці бязьвінных ахвяраў сталінскіх катаў. **Груды чалавечых костак і чарапоў вакол ямінаў – выяўны дыягназ, пастаўлены мясцоваму кіраўніцтву і грамадзкасьці, якая ў асноўнай сваёй масе не патрабуе ад уладаў ушанаваць ахвяраў і пакараць злачынцаў.**

«Віцебскія Курапаты» ля вёскі Хайсы ўлады ўпарта ня хочуць уважаць за месца пахаваньняў рэпрэсаваных. Калі гэткае стаўленьне захаваецца і да сёлетніх вясновых знаходак, мясцовае кіраўніцтва рызыкуе канчаткова скампрамэтаваць сваю рэпутацыю ў вачох грамадзкасьці. Леташняя спроба схаваць ад насельніцтва праўду пра месца масавых пахаваньняў у гэтым самым лесе, знойдзенае яшчэ ў 2014 годзе, ужо засьведчыла, што ўлада баіцца праўды пра сталінскія рэпрэсіі і ўсяляк хавае яе – парэшткі, паднятыя 52-м пошукавым батальёнам, перапахаваныя на станцыі Лосьвіда, як нібыта забітых фашыстамі грамадзянаў.

Сёлета першым на раскопы вандалаў натрапіў жыхар вёскі Хайсы **Юрась Садкоў** пры канцы сакавіка. Ён разам з жонкай паехаў у лес набраць імху.

Відавочца распавядае:

– Пад’ехалі да лесу. На самым ускрайку яшчэ здалёк кінуўся ў вочы ***жоўты пясочак*** раскапанага пагорку. Пакуль жонка пайшла да імшары, я вырашыў пацікавіцца, навошта некаму прысьпічыла раскопваць узгорак. Раскапаная яміна ўразіла і сваімі памерамі, і раскіданымі вакол яе косткамі ды чарапамі. Агледзеўся, а там яшчэ некалькі вялікіх ямінаў з парэшткамі. Па вяртаньні дадому паведаміў сястры, тая патэлефанавала ў міліцыю і запытала, што рабіць. Але самае цікавае ў тым, што апошні раз я быў на гэтым месцы ў кастрычніку мінулага году, і тады ніякіх раскопаў там не было. Значыць, капалі ў канцы кастрычніка ці ў лістападзе, або нават у сакавіку гэтага году».

Сёлетнія знаходкі ўразілі ня толькі Юрася Садкова, але і сяброў грамадзкай ініцыятывы «Хайсы», якім гэткай колькасьці чалавечых парэштак бачыць яшчэ ніколі не даводзілася.

Наш карэспандэнт запытаў кіраўніка ініцыятывы **Яна Дзяржаўцава**: «Якія заходы мяркуюць зрабіць сябры ініцыятывы ў сувязі зь цяперашнімі знаходкамі, пра імавернасьць існаваньня якіх яны паведамлялі, абапіраючыся на сьведчаньні мясцовага жыхарства?

Кажа Ян Дзяржаўцаў: «Найперш мы зьвернемся да ўладаў Віцебскага раёну, якія некалькі гадоў запар пераконвалі нас і грамадзкасьць у тым, што знойдзеныя намі ў 2014 годзе недалёка ад цяперашніх пахаваньняў парэшткі належаць ахвярам нацыстаў. Але ж гэта непрыхаваная хлусьня. Мы бачым зараз, што і тыя, і гэтыя пахаваньні абсалютна ідэнтычныя: шмат сьведчаньняў савецкага часу, і нічога зьвязанага з вайной. Нічога, апрача фрагмэнтаў нямецкага кіцелю, наяўнасьць якога сталася дастатковым аргумэнтам, каб пахаваць летась парэшткі, паднятыя 52-м пошукавым батальёнам, як савецкіх грамадзянаў, забітых падчас вайны. Няхай пашукаюць другую палову таго кіцелю ў гэтым месцы. І, ведаеце, я не зьдзіўлюся, калі яны яе тут знойдуць.

Але што асабліва мяне ўражвае тут, дык гэта тое, што сёлетнія раскопы нейкія занадта дэманстрацыйныя. Паглядзіце: нехта, нібыта з нейкім сэнсам, ахайна расклаў на пескавыя брустവэры і гэтыя дзьве кулі ад энкавэдэўскага кольту, і шэраг чарапоў з прастрэленымі патыліцамі, і грабеньчыкі, і гузікі, і гэтыя кучы ў асноўным гумавага даваеннага абутку. Такое ўражаньне, нібыта раскопкі ладзіліся людзьмі, якіх нічога не палохае, якія цалкам пераканаными ў сваёй беспакаранасьці. Вандалы нібыта зьдзекуюцца з уладаў і праваахоўных органаў, якіх не цікавяць чорныя капальнікі і тое, што яны апаганьваюць пахаваньні. Вось да чага прыводзіць стравусіная палітыка ўладаў, якая няўклюдна ратуе запэцканую чалавечай крывёю рэпутацыю сваіх папярэднікаў. Хаця мэтадычнасьць і вялікія аб'ёмы паднятага грунту і парэштак у невялікі прамежак часу можа наводзіць на іншыя высновы, у якія не хацелася б верыць.

Але найперш мы ня можам ігнараваць сьведчаньняў жыхароў вёсак Хайсы і Дрыкольле, якія добра ведаюць, хто нішчыў людзей і ў гэтым лесе, і на гэтым полі, дзе сеюць сельскагаспадарчыя культуры. А вось ў Віцебскім і Менскім КДБ кажуць, што ім нічога невядома ні пра даваенныя расстрэлы, ні пра пахаваньні ў Віцебскім раёне і ў Віцебскай вобласьці. Ну ці не абсурд? І куды гэты абсурд нас можа завесьці? Аднак нягледзячы на ігнараваньні ўладаў, мы ўсё адно працягнем сваімі сіламі стварыць у хайсоўскім лесе народны мэмарыял у памяць рэпрэсаваных».

Пра жахлівыя знаходкі праваахоўным органам Віцебскага раёну стала вядома больш за два тыдні таму, але набыткам галоснасьці гэты факт стаў толькі дзякуючы незалежнай прэсе. Здзіўляе і тая акалічнасьць, што нават старшыня Мазалаўскага сельскага выканкаму **Леанід Дубіна**, на тэрыторыі якога гэтыя пахаваньні знаходзяцца, ня ведаў пра новыя раскопкі вандалаў да тае пары, пакуль яму не патэлефанавалі незалежныя журналісты. Пра далейшае разгортваньне падзеяў мы мяркуем і надалей трымаць у курсе наведнікаў нашага сайту.

vitebskspring.org